# Гісторыя



УДК 908=161.3«0/2»(476)

*А. А. ПРУДНІКАЎ*

## ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ ЦАРКОЎНЫХ ГАРАДОЎ І МЯСТЭЧАК НА БЕЛАРУСІ Ў СЯРЭДЗІНЕ XVII–XVIII ст. (на прыкладзе каталіцкіх)

Посвящена изучению экономического развития католических городов и местечек Беларуси на протяжении одного из самых драматических периодов отечественной истории. Данные поселения появляются в конце XIV в. в результате пожалований князей Ягайло и Витовта, и до конца XVIII в. их число продолжает увеличиваться. Как королевские и частновладельческие, церковные города и местечки на протяжении середины XVII – XVIII в. пережили этапы упадка и восстановления экономики. На основании изданной литературы и архивных материалов автором выделены основные черты, характерные для хозяйственной деятельности данного вида городских поселений Беларуси: значительная концентрация корчем, большое число ремесленников; однако большинство населения зарабатывало благодаря занятию сельским хозяйством. Выявлена также заметная разница в уровне налогообложения не только в зависимости от региона, но и от принадлежности городов и местечек (владения епископств, орденов, отдельных духовных лиц).

***Ключевые слова:*** города; местечки; костел; корчма; ремесленники; хозяйство; мельницы; инвентарь; чинш; восстановление; фольварк; слобода; евреи; аренда.

This article is devoted to the study of economic development Catholic cities and towns of Belarus during one of the most dramatic periods of the native history. These settlements appeared at the end of the XIV century as a result of awards princes Jagiello and Vytautas and their number continued to grow until the end of the XVIII century. As royal and privately cities church cities and towns experienced stages of decline and recovery throughout the middle of the XVII – XVIII centuries. On the basis of published literature and archival material the author highlights the main features characteristic of the activity this type of urban settlements of Belarus: significant concentration of taverns, a large number of artisans, but most of the inhabitants earned through farming. He revealed a marked difference in the level of taxation not only depending on the region, but also on who owned the cities and towns (dioceses, orders and individual clerics).

***Key words:*** cities; towns; church; tavern; artisans; farm; mill; inventory; rents; recovery; farm (folwark); a settlement of tax exemption; Jews; rent.

У выніку шчодрых наданняў Ягайлы і Вітаўта сярод гарадскіх паселішчаў Беларусі з канца XIV ст. з'яўляецца асобны тып – «царкоўныя». У другой палове XVI ст. на Беларусі было 8 царкоўных мястэчак[1]. У канцы ж XVIII ст. да царквы належала каля 40 гарадоў і мястэчак. Калі лічыць, што агульная колькасць гарадскіх паселішчаў складала ў той час каля 400 (39 гарадоў і каля 350 мястэчак)[2], лічба царкоўных набліжаецца да 10 %, большасць з якіх – каталіцкія.

Каталіцкія гарады і мястэчкі належалі да розных уладальнікаў: біскупстваў, манаскіх ордэнаў, прыватных царкоўных асоб. Гэты факт у спалучэнні з рознай тэрытарыяльнай прыналежнасцю (бо ўладанні былі раскіданы па ўсёй тэрыторыі Беларусі) дае відавочную розніцу ў падаткаабкладанні і метадах вядзення гаспадаркі.

Паводле Е. Ахманскага, асноўнымі рысамі мястэчак Віленскага біскупства ў сярэдзіне XVI ст. з'ўляліся: значная канцэнтрацыя корчмаў (у Відзах іх было 15), наяўнасць рынку (торгу), вялікая колькасць рамеснікаў. Па падліках даследчыка, каля паловы местачковага насельніцтва зарабляла дзякуючы ўласнай гаспадарцы[3]. Пазней да гэтага дадаецца і трыманне млыноў. У цэлым такія рысы былі ўласцівы ўсім каталіцкім мястэчкам Беларусі.

Сітуацыя амаль не змяняецца ў наступным стагоддзі. Асноўнымі падаткамі з'яўляліся натуральныя з невялікай доляй чыншу. Інвентары падаюць звесткі не толькі пра гарадскія пляцы, але і пра валокі, якімі валодалі мяшчане. Так, у першай палове XVII ст. мястэчка Задзеў мела 47 пляцаў, з іх толькі 26 аселых, сярэдні зямельны надзел складаў ¼ валокі (усяго 11,5 валокі), мяшчане давалі дзякла (¼ бочкі жыта, ½ бочкі аўса і 2 курыцы) і плацілі чынш[4]. У 1644 г. інвентар згадвае дадатковыя павіннасці: падводы, работа на млыне, на агародах, сеў, лоўля рыбы 2 разы ў год. Ужо тады пры мястэчку існаваў фальварак, 2 карчмы. Быў абкладзены падаткам выраб алкаголю – з кожнага катла плацілі мяшчане 1 капу грошаў (у мястэчку было 17 катлоў). Згаданыя рамеснікі: каваль, шавец, гарбар[5]. У 1649 г. у Аршанскім павеце

было заснавана мястэчка Параф'янава. Гэта – прэстымоній, часовае ўладанне віленскіх канонікаў. Мястэчка мела 3 гады вольнасці ад падаткаў[6] плошчу ў 5,38 морга: сярэдні надзел 80 прутоў на пляц, карчомны пляц – 90 прутоў. Па-за мястэчкам мяшчане мелі 14,5 валокі, у мястэчку – 3. Над р. Бладзяй для гэтых жа патрэб было вымерана 25 моргаў 10 прутоў. Пры мястэчку сядзелі агароднікі, якія мелі разам 5,5 валокі. У Параф'янава таксама добры прыбытак даваў выраб алкаголю: уладальнікі дазволілі мяшчанам і валасцянам вырабляць піва на продаж. З рамеснікаў згаданы сталяр, шавец, півавар, каваль. Мястэчка з'яўлялася чыншавым[7].

Уладанні ўсходу Беларусі – Стрэшынскі маёнтак Віленскай капітулы (Рэчыцкі павет) – здаўна былі пераважна чыншавымі, што тлумачыцца далёкай адлегласцю ад Вільні. У 1635 г. Стрэшын меў 105 пляцаў, захавалася падаткаабкладанне па службах. З кожнай службы плацілі па 11 коп літоўскіх грошаў, з пляцаў – па 5 грошаў, з агародаў – па 1,5 гроша, з моргаў – па 4 грошы. Арандатар (карчмы) плаціў 600 коп грошаў у год[8].

У сярэдзіне XVII ст. большая частка гарадоў і мястэчак Беларусі была спустошана, некаторыя цалкам зруйнаваныя[9]. Пры гэтым даволі часта гарады і мястэчкі займалі свае ж войскі. Так, у 1649 г. жаўнеры Багуслава Радзівіла «пачынілі шкоды ў Дуброве», з Панараў забралі ўсё быдла[10]. Падобная сітуацыя мела месца ў мястэчку Гадуцішкі ў 1648 і 1650 гг.[11] У 1650 г. у Стрэшыне былі толькі 33 дымы, якія разам давалі 59 злотых і 23 грошы; 6 чал. мелі 4 гады слабады. Згадана мястэчка Радуніца з 23 дымамі, 8 з якіх – на слабадзе, 6 – вызваленыя; чыншу – 15 злотых 12 грошаў. У Радуніцы пражывалі каваль, аўчыннік і бандар[12].

Улічваючы цяжкі стан гарадоў і мястэчак краіны, сейм Рэчы Паспалітай на працягу канца 1650–60-х гг. прыняў пастановы аб вызваленні іх ад падаткаў. Так, у 1659 г. сейм пастанавіў, каб падданыя праваслаўныя былі вольныя ад «падаткаў, паншчыны, падводаў і іншых работ»[13], што было пашырана на ўніятаў у 1667 г.[14]

Аднаўленне гаспадаркі ў царкоўных уладаннях адбывалася рознымі шляхамі, да таго ж далёка не заўсёды яно давала свой плён. Асноўнымі спосабамі з'яўляліся запрашэнне прышлага насельніцтва на слабоды і скліканне кірмашоў. Складальнік інвентару Стрэшына за 1702 г. адзначае: «…каб новых людзей… не адштурхоўвалі, але ім дапамагалі»[15]. Аднак, нягледзячы на намаганні, у тым жа годзе мястэчка мела ўсяго 36 дымоў. З рамеснікаў згаданы каваль, бандар, шавец, алейнік, ганчары (апошнія вылучаны ў асобную групу), карчму арандаваў жыд. З трох службаў мяшчане плацілі 220 злотых, берагавога – 30 злотых, ганчары – 30 злотых, арандатар – 250 злотых. Пад Стрэшыным у 1700 г. была закладзена Буда, якая згарэла ў 1701 г., але хутка была адноўлена. Відаць, мястэчка вяло бойкі гандаль, бо ў Рынку было пабудавана 20 новых крам. На свята Маці Божай Грамнічнай праваслаўныя склікалі кірмаш, які быў адкладзены з прычыны малой колькасці ўдзельнікаў[16]. У «слабодцы» Карпілаўка было ўсяго 8 дымоў, якія плацілі 50 злотых. Тут былі дзве Рудні: Увараўская новазбудаваная, што плаціла 90 злотых, і Еляшоўская з аб'ездкай і шынком, якая плаціла 150 злотых[17].

Шмат разбурэнняў выклікала Паўночная вайна 1700–1721 гг. У 1706 г. Бярозаўскі кляштар картузаў наведалі Пётр I Вялікі і Аўгуст II з войскам, потым прыйшоў Карл XII. Пасля адыходу расійскіх войскаў Карл XII узяў трох служачых як закладнікаў, якіх аддаў толькі пасля атрымання 300 злотых. Яшчэ горш было ў 1708 г.[18]

Картузаўскі Бусяж у 1712 г. меў усяго 13 пляцаў, з якіх 3,5 вольныя (рыбакі і святар), за пляцы плацілі чынш. Быў таксама фальварак. Як і ў Бярозе, падданыя адпрацоўвалі 6 дзён талакі да жніва з пляца, хадзілі з лістамі і напраўлялі грэблі (акрамя баяр). Святар трымаў 2 валокі грунту вольнага, карчомны арандатар меў млын. Усяго мястэчка давала чыншу 36 злотых і 6,5 гроша, арэнды – 50 злотых. Рыбакі павінны былі ўсю рыбу адсылаць да Бярозаўскага кляштара[19].

У Стрэшыне ў 1714 г. колькасць дымоў скарацілася да 34. Рамеснікі засталіся тыя ж. Мястэчка плаціла з 3 службаў 360 злотых. Карпілаўка – вёска «слабодная», не плаціла чыншу. Арандатар стрэшынскай карчмы плаціў 400 злотых, мяшчане – 250 злотых за арэнду азёр. У параўнанні з 1702 г., такім чынам, мы бачым узрастанне чыншу з 220 да 360 злотых, арэнды – з 250 да 400[20]. У мястэчку Горваль справы выглядалі не нашмат лепей: пражывалі некалькі рамеснікаў (бандар, каваль, млынар). Усяго – 36 дымоў. Да мястэчка належала і «слабодка Берагавая». Разам яны давалі чыншу 225 злотых, арандатар плаціў 300 злотых. Пры мястэчку знаходзіліся дзве рудні: Баравіцкая і Таўстыкоўская, што плацілі па 100 злотых; за арэнду азёр мяшчане плацілі 80 злотых; млынар даваў 50 злотых. Чынш з мястэчка Горваль складаў у 1714 г. 855 злотых[21]. У чарговы раз адзначана, што Капітула «жадае прыцягнуць не толькі сышоўшых да вяртання, але і з іншых старон, зграмадзіць і сабраць, валасць і мястэчка як перад тым… грамаднае было». Навічкам вызваленне ад падаткаў і павіннасцей Двор павінен быў даць на столькі гадоў, на колькі той бы сам запатрабаваў. У Горвалі раней праводзіліся кірмаш і таргі, якія і цяпер мелі быць вольныя. Валасць Горвальская «ад вякоў на чыншы». Аднак мяшчане «не павінны адмаўляцца ад кашэння сена, лоўлі рыбы, рамонту і будавання Двору, млыноў, рудні, засыпання грэблі і г. д.»; таксама раз у год зімой да Вільні павінны былі адвозіць ласіныя скуры[22].

Пасля Паўночнай вайны пачынаецца новы перыяд узнаўлення, якое ў некаторых месцах мела плён. Да 1727 г. у Стрэшыне колькасць дымоў узрасла да 51. Тут мы бачым рамеснікаў: цэхмайстра (невядомай прафесіі), каваля, бандароў (адзін з якіх мае 2 гады вольнасці), неваднічага. Чыншу са Стрэшына Капітула атрымала 577 злотых 15 грошаў (па 165 з кожнай службы). Да Стрэшына належалі 5 засценкаў,

4 з якіх «зараслі мохам». Арандатары мелі карчму і млын для шынка. Да былых павіннасцей дадаліся: збор прадуктаў з агародаў, «пасылкі» (некалькі міль); невад[23]. Карпілаўка, усё яшчэ слабада, 23 дымы, усе на слабадзе ад 2 да 10 гадоў. Тут меліся і рамеснікі: шавец, кравец, рашэтнік, катляр. Мяшчане плацілі 165 злотых чыншу, апроч жыдоў[24]. У Карпілаўцы справы выглядалі зусім кепска: на ярмарку «падданыя нашыя… пад віной 10 коп грошаў… прыбыўшы з таварам, павінны стаць у Карпілаўцы»[25]. Мяшчане плацілі за азёры стрэшынскія 130 злотых, за горвальскія – 80, язёўшчыны – 200 злотых і інш. Дазволена жыхарам ставіць сілкі на зайцоў і ваўкоў, «абы люд убогі… павіннасць выконваў». Слабоднікі атрымлівалі да 3 гадоў слабады. Для хутчэйшага развіцця мястэчак людзей заклікалі на ярмаркі, падчас якіх ад прыезджых меласа збірацца таргове. Па вёсках і мястэчках рэвізоры загадалі паставіць слупы з запрашэннем на слабаду (таксама і за Дняпром). За «новікамі» павінны былі назіраць войты, каб тыя пачалі разрабляць зараснікі[26].

Дзякуючы дзейсным мерам, Стрэшын у 1735 г. меў шмат новазбудаваных і старых гаспадарчых пабудоў: свіран, пры свіране старая пякарня, 2 старыя хляўкі, стары сырнік, над ракой – бровар. Мястэчка мела 50 дымоў, да мяшчан належала крыху больш за 15 валок зямлі, за якія плацілі 685 злотых 24 грошы чыншу. Згадваюцца дадатковыя павіннасці (тыя ж, што і раней)[27]. Карпілаўскія мяшчане плацілі 183 злотыя і 20 грошаў чыншу. Колькасць дымоў застаецца той жа – 23. Згаданыя рамеснікі: кажамяка, рашэтнік, катляр, цясляр[28]. У стрэшынскіх уладаннях прадастаўлена слабада «маскалям, асеўшым на 7 гадоў». Такіх слабоднікаў было 12 чал. Акрамя чыншу прыбытак складала арэнда стрэшынская з «рудняй новай, са стрэшынскім, салонскім і губіцкім млынамі» – 1200 злотых, а таксама арэнда з Карпілаўкі – 100 злотых[29].

Аднак далёка не ўсе мястэчкі аднолькава добра перажывалі ўзнаўленне. Мястэчка Параф'янава ў 1737 г. мела ўсяго 7 дымоў, крыху больш за 2 аселыя валокі, за якія мяшчане плацілі 44 злотыя. Карчмар плаціў 160 злотых. Выконваліся павіннасці: зямяне мелі служыць з лістамі, баяры і асаднікі хадзілі да Вільні (і інш. на 5–6 міль), цяглыя – 2 дні паншчыны на тыдзень, цяглыя і асаднікі – 8 гвалтаў на год, сыпаць грэблю ля млына, таксама цяглыя адбывалі стражу. Жыло мястэчка перадусім жывёлагадоўляй (свінарнік, аўчарнік, 2 хлявы), меўся бровар і фальварак (пра які няма звестак)[30]. У 1739 г. мястэчка Гадуцішкі мела ўсяго некалькі дымоў, за якія плацілі чынш, давалі дзякла і адпрацоўвалі паншчыну (з цяглай валокі – 10 злотых, паншчыны – 4 дні, бочка мёду; з асаднай – 30 злотых і бочка мёду). Дадатковыя павіннасці: падводы да Вільні, касіць сенажаці, лавіць рыбу, з пустых прутоў і агародаў трэці сноп аддаваць. Да таго ж мелі служыць падчас жніва гвалтаў: 6 дзён – жанчыны, 6 – мужчыны. Страж тыднёвая пры фальварку, да плябаніі, з канём тыднёвая. Таксама ўсім мястэчкам мелі даваць збожжа (па ¼ бочкі жыта, гароху, грэчкі, ячменю – 1 бочку)[31]. Такім чынам, ва ўладаннях захаду Беларусі ва ўмовах вялікай разнастайнасці падаткаў пачынае назірацца пераход да фальваркаў.

Стрэшынскія ўладанні развіваюцца вельмі ўдала, бо ў 1755 г. мястэчка мела ўжо 64 дымы, за якія плацілі 973 злотыя 22 грошы, Карпілаўка – 46 дымоў, чынш – 634 злотыя 2 грошы. Працягвае развівацца прамысловасць: карчмары мелі 5 будаў, з якіх 3 – паташныя, плацілі за іх 1600 злотых. За арэнду «гарадскую з той стараны Дняпра» – 1120 злотых, за другую палову арэнды задняпроўскай з рудняй – 2240; таксама стрэшынскі млынар даваў 12 злотых[32]. Як бачым, чынш і арэнда ізноў узрастаюць. Праз 4 гады, у 1759 г., Стрэшын меў ужо 84 дымы, з якіх прыбытку – 1129 злотых. Карпілаўка мела 55 дымоў, чынш – 823 злотыя; жыды плацілі асобна 30 злотых, адзін з іх – Борка Янкелевіч – быў звольнены ад чыншу на 4 гады. Чынш вырастае перадусім з прычыны павелічэння колькасці дымоў, арэнда застаецца: 1600 злотых за буды, 1120 і 2240 – па абодвух баках Дняпра і 12 злотых ад млынара[33].

У 1767 г. колькасць дымоў у Стрэшыне змяншаецца да 78, аднак у Карпілаўцы, наадварот, яна павялічваецца з 55 да 71, з іх 26 – жыдоўскія. Чыншу паступіла 1150 злотых, з Карпілаўкі – 916; за карчму карпілаўскую – 70 злотых[34]. Чынш зноў узрастае пры змяншэнні колькасці дымоў у Стрэшыне.

У параўнанні з іншымі даволі вялікім з'яўлялася картузаўскае мястэчка Бяроза. У 1767 г. тут на 8 вуліцах было 144 дымы – 120 хрысціянскіх, 24 жыдоўскія. Акрамя чыншу за пляцы прысутнічаў шэраг дадатковых павіннасцей: талака (з пляцаў аселых – 2 дні, з чыншавых – на дажынкі работы па 1 асобе ад хаты; падаткам былі абкладзены коні і валы (палова бочкі віленскай); звозіць дрэва да пілавання і ацяплення, хадзіць з рыбакамі да невада і інш. У Рынку былі 2 мураваныя карчмы і 1 драўляная. Рамеснікам (сярод якіх былі ганчар, муляр, 2 цагельнікі і шынкар) бясплатна дазвалялася аддаваць на навучанне сваіх сыноў пры ўмове, што тыя вернуцца ў Бярозу[35]. У 1775 г. колькасць дымоў у Бярозе скарацілася да 93 хрысціянскіх і 18 жыдоўскіх, разам – 121[36].

Канец XVIII ст. – гэта яшчэ адна драматычная старонка нашай гісторыі. Свавольства шляхты, бязвольнасць каралеўскай улады прыводзяць да заняпаду і знікнення дзяржавы. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай Стрэшын перайшоў да расійскага скарбу, пазней быў падараваны графу Астэрману[37]. У 1779 г. лічба дымоў у мястэчку Стрэшын застаецца той жа, што і ў 1767 г. – 78; чынш узрастае да 1948 злотых 20 грошаў. У Карпілаўцы колькасць дымоў скарацілася да 46, з якіх чыншу – 972 злотыя 7,5 гроша[38]. У 1787 г. у Стрэшыне і Карпілаўцы было 130 і 54 дымы, за якія чынш складаў 1993 і 1113 злотых адпаведна[39].

У 1776 г. у Параф'янаве былі 7 дымоў і 2 валокі, што амаль 40 гадоў таму. Мяшчане мелі 15 коней, 1 вала. У мястэчку мелася 29 жыхароў (уключаючы 4 парабкаў), чыншу плацілі 82 злотыя 15 грошаў. Таксама яны давалі даніну: 14 курэй і 105 яек; арандатар плаціў 500 злотых[40]. Праз 5 гадоў, у 1781 г., Параф'янаў ператвараецца ў фальварак, згадак аб мястэчку ўжо няма[41].

На працягу XVIII ст. картузаўскі Бусяж так і не здолеў аднавіцца. У 1780 г. у мястэчку налічвалася ўсяго 11 дымоў, дзе пражывалі 31 мужчына і 24 жанчыны, якія мелі 18 валоў і 1 каня. Адзін з мяшчан гадаваў пчол, згаданы каваль і млынар[42].

У 1787 г. мястэчка Ігумен Мінскага павета мела 83 дымы, жыды плацілі за пляцы 184 злотыя 16 грошаў, хрысціяне – 1230 злотых 14 грошаў чыншу. У мястэчку знаходзіліся: карчма, млын на 2 колах, грэбля, каля мястэчка 2 возеры, у якіх рыба – шчупакі, ліні, карасі, акуні і інш. Хрысціян было 129 мужчын і 60 жанчын, яны мелі 71 каня, 61 вала, 41 карову, 120 авечак, 66 свіней, 13 вуллёў пчол. Акрамя чыншу давалі 1 дань мядовую (не ўказана ў якім вымярэнні). Мяшчане і валасцяне мелі права самі абіраць старца і войта, якіх зацвярджаў Двор. Устава загадвала плаціць чынш або ў натуры даваць прадукты, а не адпрацоўваць паншчыну[43].

З канца XVII ст. пачынаецца практыка здачы ў часовае трыманне царкоўных маёнткаў. У 1750 г. Бакшты былі аддадзены панам Хамінскім у суме 43 000 злотых польскіх на 3 гады[44]. У 1793 г. скончыў трыманне Відзаў пан Буры[45]. У 1794 г. Ігумен знаходзіўся ў трыманні Гячэвіча, паншчыны ніхто не адпрацоўваў, толькі чынш; Мядзведзіцы – у трыманні Дамейкі, падданыя адпрацоўвалі паншчыну, гвалты і плацілі чынш. Старынкі трымаў Багушэвіч, падданыя плацілі чынш[46]. На працягу 1782–1795 гг. Германішкі трымалі Гертруда Быкоўская, Карп і Палятыла і Канстанцін Волян[47]. Германішскія ўладанні адрозніваліся разнастайнасцю павіннасцей, свае карэктывы ўносілі часовыя трымальнікі, пераводзячы падданых з чыншу на паншчыну і наадварот. Мяшчане плацілі за падводы, падымнае, арандатары плацілі за корчмы, а таксама млынар – 59 злотых і ½ гроша[48].

Такім чынам, можна зрабіць наступныя высновы. Буйнымі каталіцкімі землеўладальнікамі на тэрыторыі Беларусі лічыліся не толькі Віленскае біскупства, але таксама і шматлікія манаскія ордэны. Да таго ж існавала відавочная розніца ў тыпах падаткаабкладання ў залежнасці ад рэгіёна і ўласніка. Яшчэ з XV ст. каталіцкія ўладанні паўднёвага ўсходу Беларусі (Стрэшын) з'яўляліся поўнасцю чыншавымі; ва ўладаннях жа цэнтральнай часткі і захаду Беларусі падданыя мелі плаціць чынш і адпрацоўваць шэраг павіннасцей. Менавіта ў цэнтральнай частцы і на захадзе Беларусі пачынае распаўсюджвацца фальваркавая сістэма, чаго не было на поўдні краіны. Уладальнікі, зацікаўленыя ў развіцці сваіх мястэчак, у часы эканамічнага і дэмаграфічнага крызісу даволі хутка рэагавалі на сітуацыю: запрашалі на слабоды, давалі пазбаўленні ў падатках і г. д. Асноўнай крыніцай папаўнення працоўнага люду часцей за ўсё аказваліся маскалі і жыды.

У канцы XVIII ст. вельмі шырока распаўсюджваецца практыка здачы ў часовае трыманне ўладанняў (у сярэднім на 3–5 гадоў). Частымі былі спрэчкі духоўных уладальнікаў з войскам, якое ўступала ў іх маёнткі; каталіцкая царква вельмі руплива бараніла свае фундушы. Не менш частымі былі таксама і спрэчкі паміж рознымі каталіцкімі структурамі.

У другой палове – канцы XVIII ст. у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыя Беларусі ўвайшла ў склад Расійскай імперыі. Многія каталіцкія ўладанні былі адабраны на карысць скарбу дзяржавы, якая раздавала іх расійскім службовым асобам.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС

[1] Гл.: Ochmański J. Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa Wileńskiego (1387–1550): ze studiów nad rozwojem wielkiej własności na Litwie i Białorusi w średniowieczu. Poznań, 1963. S. 40–59, 129.
[2] Гл.: Вялікае Княства Літоўскае : энцыкл. : у 2 т. Мінск, 2007. Т. 1. С. 545.
[3] Гл.: Ochmański J. Op. cit. С. 127–128.
[4] Гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). Ф. 1928. Воп. 1. Спр. 102. Арк. 1–2.
[5] Гл.: НГАБ. Ф. 1928. Воп. 1. Спр. 101. Арк. 3–13 адв.
[6] Гл.: Аддзел рукапісаў навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (далей – АР НБ АНЛ). Ф. 43. Спр. 14659. Арк. 11.
[7] Там жа. С. 13 адв.–15.
[8] Гл.: АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 17424. Арк. 1–1 адв.
[9] Гл.: Гісторыя Беларусі : у 6 т. Мінск, 2004. Т. 3. Арк. 122.
[10] Гл.: Kurczewski J. Kościół Zamkowy czyli Katedra Wileńska : 3 t. Wilno, 1916. T. 3. S. 148.
[11] АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 3885. Арк. 10, 13 адв.
[12] Там жа. Спр. 17452. Арк. 1–3.
[13] Volumina Legum. Przedruk zbioru praw : 8 t. Petersburg, 1859–1889. T. 4. S. 302.
[14] Ibid. S. 473.
[15] АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 17484. Арк. 7 адв.– 8 адв.
[16] Там жа. Арк. 1–2, 8–8 адв.
[17] Там жа. Арк. 3 адв., 7.
[18] Гл.: Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich : 15 t. Warszawa, 1880–1902. T. 11. S. 141.
[19] Гл.: НГАБ. Ф. 1928. Воп. 1. Спр. 42. Арк. 8–13 адв., 20–21.
[20] Гл.: АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 17486. Арк. 2–10, 15, 1–8 адв.
[21] Там жа. Арк. 6 адв.–13.
[22] Там жа. Арк. 13 адв.–15 адв.
[23] Гл.: АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 17490. Арк. 2–3.
[24] Там жа. Арк. 4 адв.–5.
[25] Там жа. Арк. 21–22 адв.
[26] Там жа. Арк. 20 адв.–23 адв.
[27] Гл.: АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 17516. Арк. 1–4 адв.
[28] Там жа. Арк. 7.
[29] Там жа. Арк. 15 адв.–17.
[30] Гл.: АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 14671. Арк. 1–10.

[31] Там жа. Спр. 3841. Арк. 8.
[32] Там жа. Спр. 17595. Арк. 5–31.
[33] Там жа. Спр. 17601. Арк. 5–6, 9–10, 44.
[34] Там жа. Спр. 17608. Арк. 3–4 адв., 44.
[35] Гл.: НГАБ. Ф. 1928. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 1–5 адв., 1–14.
[36] Там жа. Арк. 13 адв.
[37] Гл.: Słownik geograficzny Królestwa Polskiego... T. 1. S. 480.
[38] Гл.: АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 17629. Арк. 3–5, 9 адв.–10.
[39] Там жа. Спр. 17637. Арк. 6–9, 17–18.
[40] Там жа. Спр. 14680. Арк. 6, 14.
[41] Там жа. Спр. 14684. Арк. 4.
[42] Гл.: НГАБ. Ф. 1928. Воп. 1. Спр. 43. Арк. 19 адв.–20.
[43] Гл.: АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 8829. Арк. 3 адв., 8, 10–12, 31–32 адв.
[44] Там жа. Спр. 144. Арк. 17.
[45] Там жа. Спр. 23794. Арк. 6.
[46] Там жа. Спр. 8831. Арк. 1 адв.–3 адв.
[47] Гл.: АВАК. Вильно, 1914. Т. 38. С. 44–53, 58, 60–63, 74–75, 78.
[48] Гл.: АР НБ АНЛ. Ф. 43. Спр. 8622. Арк. 1; Спр. 8639. Арк. 1.

Паступіў у рэдакцыю 26.12.2013.

***Аляксандр Аляксандравіч Пруднікаў*** – аспірант кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў. Навуковы кіраўнік – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў Ю. Л. Казакоў.

*УДК 792.03(476)*

*О. С. КЛЕЦКИНА*

## ТЕАТР РАДЗИВИЛЛОВ В МАТЕРИАЛЬНОЙ И ДУХОВНОЙ КУЛЬТУРЕ БЕЛАРУСИ XVIII в.

Посвящена исследованию театра Радзивиллов как совокупности характерных черт культуры Беларуси XVIII в. Рассматривается взаимодействие сценического искусства с такими сферами, как литература, архитектура, изобразительное и декоративно-прикладное искусство, а также образование и эстетическое воспитание. Большое внимание уделяется связям с польским и европейским театром, их влиянию на становление и развитие белорусской сцены. Делается вывод о том, что придворный любительский и профессиональный театр Радзивиллов составлял единое целое с культурой и повседневной жизнью аристократии в XVIII в. Соответственно этот феномен должен быть тщательно изучен и представлен в научных трудах, музейных экспозициях и творческих реконструкциях как важная часть исторического и культурного наследия Беларуси.

***Ключевые слова:*** Радзивиллы; театр; культура Беларуси; история Беларуси; XVIII в.

This article is devoted to the Radziwill’s theatre as a complex of characteristic features of Belarusian culture in XVIII century. Here are studied it’s relations with such spheres as literature, architecture, visual and decorative arts, education and esthetic upbringing also. Much attention is paid to the links with Polish and European theatre, it’s influence to the standing and development of Belarusian stage. In article is made a conclusion, that Radziwill’s courtier amateur and professional theatre was integrated to the culture and every day live of aristocracy in the XVIII century. Accordingly, this phenomenon should be carefully studied and represented in research papers, museum exhibitions and creative reconstructions as a great part of historical and cultural heritage of Belarus.

***Key words:*** Radziwill; theatre; Belarusian culture; Belarusian history; XVIII century.

Белорусские земли в эпоху Просвещения входили в состав Речи Посполитой – многонациональной страны, в которой, как в огромном плавильном котле, смешивались религиозные направления, культурные парадигмы и этнические особенности. Это определило развитие и характер искусства, представлявшего собой синтетический продукт взаимодействия европейского, славянского и восточного компонентов. Особо важную роль в этот период играл театр, который фактически стал одной из доминант в области эстетического воспитания, образования и светской жизни. Эволюция сценического мастерства была тесно связана с деятельностью частных коллективов, которые магнаты организовывали в своих поместьях по примеру королевских дворов в Варшаве и Дрездене. Наиболее крупным и профессиональным из них был театр Радзивиллов в Несвиже и Слуцке.

Радзивиллы являлись одним из самых влиятельных и богатых аристократических родов в государстве. Они занимали важнейшие административные и военные должности, владели многочисленными поместьями и дворцами. Благодаря традиции отправлять княжеских детей на обучение в иезуитские коллегиумы и за границу магнаты были в курсе последних веяний в художественной сфере. Созданные ими театральные площадки стали прямым продолжением их жизненных установок, что позволяет рассматривать театр не только как объект изучения, но и как исторический источник о материальной и духовной культуре высших слоев общества в XVIII в.

Исследование и восстановление этого феномена ведется нами на основе личных и хозяйственных документов, данных картографии и иконографии, сохранившихся в архивных и музейных собраниях Беларуси, Польши, России и Украины. Активно привлекаются также европейские материалы соответствующего периода, которые помогают восполнить недостающие элементы с помощью исторически обоснованных аналогий. Однако работа по обнаружению и привлечению письменных памятников по этой теме еще далека от завершения, что является одним из факторов, стимулирующих к ней научный интерес.

В истории, филологии и искусствоведении проблема театра Радзивиллов начала активно изучаться лишь с 1950-х гг. На протяжении 60 лет был заложен ее историографический фундамент в монографиях польских ученых А. Миллера, А. Сайковского, Б. Юдковяк, К. Вержбицкой-Михальской, А. Журавской-